# СВАБОДА

№20 24 — 30 траўня 1994 г.

Кошт 100 рублёў







## Назіральнікаў гуртуе камісія

**Грамадзкая кантрольная камісія, якую ўтварылі 14 дэмакратычных арганізацыяў Беларусі, плянуе накіраваць сваіх назіральнікаў падчас прэзыдэнцкіх выбараў на кожны выбарчы ўчастак.**

Дзеля гэтага камісія пачала ствараць свае філіі ў розных раёнах Беларусі. *Тэлефон камісіі ў Менску: 63-78-13.*

М.Г.


ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец **«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**


# «Жалезны Фэлікс» таксама рыхтуецца да прэзыдэнцкіх выбараў

Гэты здымак выдатна ілюструе той факт, што курс цяперашняга рэжыму застаецца нязьменным з камуністычных часоў. І нішто ня зьменіцца, калі на прэзыдэнцкіх выбарах «партыя ўлады» возьме верх.

Рэстаўрацыю бюста Дзяржынскаму, які стаіць у Менску насупраць «жоўтага дома», фінансуе гарвыканкам супольна з КДБ. Плянуецца, што да прэзыдэнцкіх выбараў Фэлікс будзе блішчэць.

Не зразумела толькі, навошта яны павесілі шыльду «Закрыт на ремонт»? Можа дзеля таго, каб не падумалі, што зносяць Фэлікса.

В.П.




# «Дзікае паляваньне» Кебіча

**«Кебіч быў зусім п'яны. Ён ледзь трымаўся на нагах, нават ня мог сам пераапрануцца з паляўнічага касьцюма ў цывільны. Два прапаршчыкі трымалі яго пад рукі, а трэці нацягваў штаны. Зашпільваючы Кебічаву шырынку, ён загадаў нам, салдатам, адвярнуцца... Мама, ты б паглядзела — хто намі кіруе!»**

*(Зь ліста салдата в/ч 44444, якая разьмешчана ў Пухавічах, што паблізу Менска.)*


**(Працяг на стар.8)**


## Беларускія магілы ў Монтэ-Касіно

**22 траўня ў Горадні адбылася імпрэза, прысьвечаная 50-ым угодкам бітвы пад Монтэ-Касыно ў Італіі.**

Зь Беларусі на ўрачыстасьці ў Італію выехалі чатыры чалавекі — два беларусы і два палякі. Паездку фінансуе польскі бок. Усяго на Беларусі жыве 12 вэтэранаў бітвы пад Монтэ-Касіно. У Польшчы іх — 650 чалавек.

Пад Монтэ-Касіно вызначыўся Другі польскі корпус генэрала Андэрса, які складаўся пераважна з жыхароў былой усходняй Польшчы. Найбольш загінула там ураджэнцаў Гарадзеншчыны. На польскіх могілках у Монтэ-Касіно ёсьць ня толькі каталіцкія і праваслаўныя крыжы, але і татарскія і габрэйскія магілы.

У Монтэ-Касіно адбудзецца вялікая ўрачыстасьць і парад вэтэранаў войскаў хаўрусьнікаў, у тым ліку і польскіх. На ўрачыстасьць вылятаюць прэзыдэнт і прэм'ер-міністар Польшчы. Беларускі ўрад аніяк не адрэагаваў на слаўную дату ў гісторыі Другой сусьветнай вайны, да якой беларусы і беларускія палякі маюць непасрэднае дачыненьне.

С.А.

# Картэж Грыба зьбіў чалавека

## Улады адмаўляюцца даваць інфармацыю

Гэта здарылася яшчэ ў пазамінулую нядзелю (16 траўня). Старшыня ВС Мечыслаў Грыб у суправаджэньні трох машын (дзьве — ДАІ, адна — аховы) вяртаўся з прыгараднага пасёлку Бараўляны ў Менск. У горадзе, на скрыжаваньні праспэкта Скарыны і вуліцы Філімонава, картэж паехаў на чырвонае сьвятло і зьбіў пешахода. Чалавек з чэрапна-мазгавой траўмай быў дастаўлены ў шпіталь. Цяперашні ягоны стан нам невядомы. Па нашых зьвестках, ён быў зьбіты машынаю аховы, якая ехала сьледам за «мэрсэдэсам» М.Грыба. Кажуць, што генэрал паехаў на той жа хуткасьці, нават не спыніўшыся.

Карэспандэнт СВАБОДЫ спрабаваў што-небудзь даведацца пра гэтую аварыю афіцыйным шляхам, аднак ані шэф гарадзкога ДАІ, ані ягонае начальства ў МУС не далі ніякіх зьвестак. Наўрад ці ёсьць у Эўропе яшчэ адна такая краіна, дзе б гэтак хавалі інфармацыю. У якой заўгодна краіне газэты паведамілі б пра гэта назаўтра ж. А ў нас — ціша. Відаць, ёсьць што хаваць.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

**На здымку: «мэрсэдэс» Мечыслава Грыба**



# Фронт адчувае сілу і плянуе перамагчы

**Чарговае, травеньскае, паседжаньне Сойму БНФ адбывалася на тыдзень пазьней звычайнага тэрміну. Тыдзень таму актывісты Фронту здавалі сабраныя за Пазьняка подпісы, а ў гэтую суботу (21 траўня) можна было ўжо падсумоўваць вынікі першага этапу выбарчай барацьбы — як згадзіліся ўсе выступоўцы, станоўчыя.**

Зянон Пазьняк спыніўся на праграмных палажэньнях Народнага Фронту ў выбарчай кампаніі. У палітычным жыцьці краіны акрэсьліліся дзьве пазыцыі, паміж якімі выбірае грамадзтва. Першая пазыцыя, пазыцыя Народнага Фронту, — стварэньне незалежнай нацыянальнай (у эўрапейскім сэнсе гэтага слова) дзяржавы, заснаваная на рынкавых дачыненьнях і здольная да сацыяльных гарантыяў здаровая эканоміка, вяртаньне ў цывілізацыю, у Эўропу. Пазьняк сфармуляваў геапалітычныя прыярытэты праграмы. Беларусь, паводле яго, мае быць нэўтральнаю дзяржаваю зь міжнароднымі гарантыямі нэўтралітэту. Прыярытэт на Захадзе — Нямеччына зь яе дынамічнай эканомікай і дасягненьнямі ў сацыяльнай палітыцы. Прыярытэт на Ўсходзе — Расея, зь якой нам суседзіць заўсёды, а значыць, трэба ўмець ладзіць зь ёй адносіны ў нашых інтарэсах. Сутнасьць падыходу Фронту — добрыя дачыненьні з Расеяй праз добрую мяжу.

Другая пазыцыя зарыентаваная на ўсход. Гэта — развіцьцё грамадзтва на аснове таталітарнай ідэялёгіі ды аднаўленьне імпэрыі. На пазыцыі самагубства дзяржавы стаяць афіцыйныя колы. Яны ўпэўненыя ў падтрымцы мафіёзных сілаў Расеі. Але мы прапануем аптымістычную ідэялёгію, і нашаю сілай павінна стаць апора на ўвесь народ. Трэба працаваць зь «ня нашым» электаратам, сказаў Пазьняк.

Юры Хадыка разьвіў гэтую думку ў дачыненьні да Лукашэнкі. Лукашэнка заклікае народ да помсты, а Фронт — да справядлівасьці. Таму цяперашні электарат Лукашэнкі — часовы, гэта наш электарат. Стваральная справядлівасьць шырэйшая за разбуральную помсту. Наагул, маральнасьць выгодна адрозьнівае палітыку Фронту ад палітыканства некаторых з тых, хто залічае сябе да «дэмакратаў», сказаў сп. Хадыка, камэнтуючы гульні БСДГ вакол дэпутацкіх подпісаў, сабраных за Карпенку.

Пра Лукашэнку разважаў і Лявон Баршчэўскі. Неабходна растлумачваць грамадзтву, да чаго вядуць Лукашэнкавы прапановы здаць дзяржаву. Узгадайма, што Лукашэнка заявіў выступаў супраць фронтаўскай ідэі нэўтралітэту Беларусі, што ня хто іншы, як правая рука Лукашэнкі Булахаў «завальваў» законапраект Апазыцыі аб барацьбе з карупцыяй.

Багата гаварылі пра кантроль. Кебічаў апарат разьлічвае на першы тур выбараў, а значыць, трэба чакаць масавых фальсыфікацыяў перадусім на многіх тысячах сельскіх выбарчых участкаў. Цяжка паўсюдна забясьпечыць незалежны нагляд, шмат лазеек для фальсыфікацыяў пакідае закон (прыкладам, падчас г.зв. папярэдняга галасаваньня за 10 дзён або звыклага для нашых вёсак аб'езду выбаршчыкаў з урнамі). Але Фронт — адзіная сіла ў краіне, здольная рэальна забясьпечыць больш-менш масавы кантроль. Па два назіральнікі на кожны выбарчы ўчастак — такую задачу-мінімум рызыкнуў паставіць Уладзімер Анцулевіч.

Вінцук Вячорка зазначыў, што ў выніку выбараў акрэсьліцца электарат, які цьвёрда стаіць на фронтаўскіх пазыцыях незалежнасьці, здаровай эканомікі і вяртаньня ў эўрапейскае цывілізацыйнае кола. Гэты электарат — стрыжань грамадзянскае супольнасьці — і ёсьць гарант незалежнасьці краіны. Акрэсьліваецца і Фронт, як сучасная і моцная цэнтрысцкая партыя.

Уладзімер Заблоцкі выклаў тэзы эканамічнае праграмы фронтаўскага кандыдата ў прэзыдэнты. Пункт першы — «Безумоўнае выкананьне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі. У адпаведнасьці з патрабаваньнямі Канстытуцыі праводзіць самастойную нутраную й зьнешнюю палітыку, у тым ліку і ў эканоміцы». Пазьняк потым дадаў: «Нашыя эканамічныя ідэі даўно прызналі ўсе вядучыя эканамісты краіны. Іх нават пасьляхова зьдзейснілі за мяжой — прыкладам, у Эстоніі. Не прызналі іх толькі спэцыялісты з дыплёмам ВПШ».

Аўтар ідэі Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара, сябра Сойму БНФ Станіслаў Гусак паінфармаваў, што ўрадавыя структуры Украіны й Літвы ўжо распачалі практычныя захады да ажыцьцяўленьня ідэі транскантынэнтальнага трубаправоду, які зьменшыць нашую паліўную залежнасьць ад Расеі. ІІ Міжнародную навукова-практычную канфэрэнцыю па гэтым пытаньні Народны Фронт ладзіць у чэрвені.

Падагульняючы размову, Зянон Пазьняк адзначыў: Мы павінны карэктаваць вобраз Фронту, які існуе ў масавай сьведамасьці, пры тым, аднак, захоўваючы станоўчыя рысы гэтага вобразу: сілу, пасьлядоўнасьць, перамагальную моц.

І.С.

## Памяці Максіма

**25 траўня, а 12-й гадзіне ў дзень памяці Максіма Багдановіча, адбудзецца ўскладаньне кветак да помніка паэту, а таксама Імша ў Петрапаўлаўскім саборы на Нямізе.**

# Пра бясьпеку Масквы клапоцяцца беларускія генэралы

**20 траўня ў Менску адбыўся чарговы раўнд перамоваў паміж беларускім і расейскім Міністэрствамі абароны.**

Удзельнікі парафавалі дамову, паводле якой Расея фінансуе дабудову ў Баранавічах станцыі папярэджаньня аб ракетным нападзе. Станцыю пачалі ствараць яшчэ пры СССР (паводле савецка-амэрыканскага пагадненьня аб' забудове шырагу такіх станцыяў у абедзьвюх краінах). Фінансуючы заканчэньне будоўлі баранавіцкага аб'екту, Расея страхуецца ад будучых цяжкасьцяў: праз 6 год ёй давядзецца спыніць выкарыстаньне радыялякацыйнай станцыі ў Скрундэ (Латвія). Паводле словаў кіраўніка расейскай дэлегацыі на перамовах зь Беларусяй, пасла па адмысловых даручэньнях Веніяміна Панова, станцыя ў Баранавічах будзе абслугоўваць той самы рэгён, што і станцыя ў Скрундэ, і будзе выкарыстоўвацца Расеяй пасьля зачыненьня апошняй.

Акрамя згаданай дамовы, на перамовінах былі парафаваныя яшчэ тры дакументы — аб умовах забесьпячэньня знаходжаньня ў Беларусі расейскіх войскаў стратэгічнага прызначэньня, аб арганізацыі вучэньняў частак беларускай супроцьпаветранай абароны (СПА) на расейскіх палігонах, а таксама дамова наконт умоваў знаходжаньня й функцыяваньня ў Вялейцы станцыі расейскага ваенна-марскога флёту, якая забясьпечвае сувязь з караблямі.

Да 12 чэрвеня ў Маскве плянуецца правесьці чарговы раўнд перамовінаў, каб канчаткова ўдакладніць дакументы перад падпісаньнем іх кіраўнікамі ўрадаў.

Дарэчы, беларускія генэралы спрабуюць засакрэціць вынікі перамовінаў, што тычацца расейскіх радыёлякацыйных станцыяў у Баранавічах і Вялейцы: прэс-цэнтар Міністэрства абароны Беларусі паведаміў, што на перамовінах абмяркоўваліся толькі два пытаньні — пра знаходжаньне ў Беларусі расейскіх войскаў стратэгічнага прызначэньня і пра арганізацыю вучэньняў беларускіх СПА. Пра дамовы наконт аб'ектаў у Баранавічах і Вялейцы — ні слова.

Ян КАМОЦКІ

# Навукоўцы-габраісты зьбіраюцца ў Менску

**24-25 траўня ў Менску адбываецца міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Габрайская культура Беларусі і яе ўзаемадзеяньне зь беларускаю ды іншымі культурамі».**

Арганізатарамі канфэрэнцыі выступілі Аб'яднаньне габрайскіх арганізацыяў Беларусі, Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтар, ННЦ імя Скарыны, Згуртаваньне прадпрымальнікаў Беларусі, дабрачынная арганізацыя «Джойнт» і, вядома ж, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.

На канфэрэнцыю запрошана шмат замежных удзельнікаў. Ізраіль будуць рэпрэзэнтаваць, сярод іншых, прафэсар Пол Вэксьлер, вядомы сваімі дасьледаваньнямі славянскіх асноваў ідыш, і Нахум Раковэр. Прафэсар Адам Мальдзіс, адзін з арганізатараў навуковага форуму, лічыць, што продкі сп.Раковэра, магчыма, паходзяць зь мястэчка Ракаў Менскай вобласьці.

Мяркуецца, што ад Вялікабрытаніі ў канфэрэнцыі возьмуць удзел такія вядомыя навукоўцы, як Гай дэ Пікарда, Вера Рыч і Джон Кліер.

З прывітальным словам на цырымоніі адкрыцьця выступіць пасол Ізраіля ў Менску сп. Эліяху Валк. Канфэрэнцыя будзе праходзіць у будынку ЕГАКЦ (вул. Кірава, 21).

Вінцук ШОСТКА



# Мёртвым не баліць, жывым ня сорамна

**Днямі Бярозу наведаў намесьнік міністра адукацыі Нямеччыны.**

Адна з абмеркаваных падчас візыту праблемаў датычыла старых нямецкіх могілак, якія ў народзе завуцца аўстрыйскімі. Магілы засталіся тут з часоў першай сусьветнай вайны. Доўгія гады могілкі ніхто не даглядаў і некалькі разоў іх рабавалі. Будзем спадзявацца, што візыт высокага госьця зь Нямеччыны дапаможа вырашыць праблему ўтрыманьня могілак у адпаведным стане.

Вольга ШЫП, РІД

# У доме галяндзкага рамесьніка

**У Горадні на вуліцы Ажэшкі адчыніўся новы музэй — музэй рамёстваў.**

Некалі на гэтым мейсцы існавала цэлая вуліца з дамоў, якія прыблізна 220 гадоў таму гарадзенскі староста Антоні Тызэнгаўз пабудаваў для запрошаных з Галянды рамесьнікаў. Захаваўся толькі адзін зь іх. У ім і разьмясьціўся музэй рамёстваў. Тут можна ўбачыць бюст самога Тызэнгаўза, зроблены скульптарам Панцялеевым. Упершыню выстаўлены макет гарадзкога прадмесьця Гарадніца, дзе гарадзенскі староста пабудаваў ня толькі мануфактуры й жытло для рамесьнікаў, але і тэатар, публічную ды музычную акадэміі, некалькі палацаў. Палова з гэтых камяніцаў захавалася. Дарэчы, частка пляцу Леніна паміж двума старымі палацамі называецца цяпер пляцам Тызэнгаўза.

С.А.

# Ахвяра на Курбан-байрам

**У мінулую суботу а 6-й гадзіне раніцы, за гадзіну да ўсходу сонца, у Горадні мясцовыя мусульмане ўпершыню па-сапраўднаму адзначылі сваё рэлігійнае сьвята Курбан-байрам — «сьвята ахвяпрыношаньня».**

У ім таксама прынялі ўдзел арабскія студэнты, якія навучаюцца ў Гарадзенскім мэдінстытуце. Замежныя студэнты купілі на свае грошы быка, якога закалолі, згатавалі і ўсіх ахвотных частавалі мясам.

Курбан-байрам адзначаўся таксама ў Іўі і Слоніме.

А.ВЕРАМЕЙЧЫК

# Кандыдат у прэзыдэнты пахваліўся, як вядзе нас у палон

## „Так точно! Есть!"

Кебічаў картэж, калі ён 18 траўня калясіў па Горадні, складаўся ажно з 13 машын і двух мікрааўтобусаў — напэўна, з аўтаматнікамі, кулямётнікамі, гранатамётнікамі і г.д. Вуліцы пусьцелі, як толькі ён набліжаўся. У адным толькі мейсцы на дарогу раптам выехаў трактар (спроба замаху?!), і ўшчэнт разгубленага трактарыста міліцыянты мусілі зганяць праз мэгафон мацюкамі.

Аж вось тав. Кебіч — у аблвыканкаме, побач якога дбайна падстрыглі газоны. Сабрана ўсё абласное начальства, якое хоць і наракае, што адно кола да ваза ўжо каштуе 300 тыс. рублёў, але й не забываецца сьпяваць панэгірыкі: «Духом мы не падаем. Рассчитываем на порядочного президента, который наведет в республике порядок». Або: «Мы связываем будущее Беларуси только с вашим именем».

Ну, а задаволены госьць у адказ давай палускаць: «Мы страдаем по вине некоторых политиков». Маўляў, нам адключалі газ, «когда мы отметили победу над Россией под Оршей». Прычым расейскія сябры нібыта сказалі тав. Кебічу: «Сделаете еще одну победу — и вы придете в плен сами». І ён цяпер аддана выконвае «сяброўскую параду»: «Я снова улетаю в Москву, чтобы Черномырдин довел дело до конца... Быть или не быть полному договору с Россией, зависит от выборов президента. Этот союз подписывается **навсегда». Але каб мясцовае** начальства было нагаатове і не расслаблялася раней часу, вялікі сталічны госьць нагадаў, што яму па-ранейшаму «какието силы мешают».

## Вячаслаў Францавіч і „Сьнікерс"

Кебіч наракаў, што ў ягоным Саўміне замала чыноўнікаў, а заробкі нізкія, нават ён сам за свае высілкі атрымоўвае ўсяго 842 тысячы. Сказаўшы пра тэлерэкляму, якая раздражняе гледачоў, прызнаўся сарамліва, што самому яму ані разу яшчэ не ўдалося пакаштаваць той славуты «Сьнікерс». Гаварыў, што дачыненьні з прафсаюзамі (і ўдакладніў — з «афіцыйнымі») — у яго «самые хорошие». «На втором Конгрессе народа Беларуси буду присутствовать и выступать».

Пра выніке будучых прэзыдэнцкіх выбараў сказаў як пра даўно вырашаную справу: «Моя команда профессиональна, но любую команду нужно обновлять. После президентских выборов она будет формироваться заново». Хітры Кебіч не пайшоў на вуліцу або ў крамы, а толькі пагладзіў па галоўцы начальства: «Очень тронут добрым отношением ко мне. Вы спокойно себя ведете, потому что сами все понимаете».

## Прэзыдыюм у царкве

У вуніяцкай, сяньня праваслаўнай, царкве Кебіча вельмі-вельмі чакалі. На сустрэчу з усяго навакольля зьехалася каля 25 бацюшкаў, якіх колькасна падмацавалі вернікамі (з самых апантаных). У храме паставілі лаўкі ды крэслы — дакладна як у вуніяцкай царкве. Але каля самага аўтара — навіна: стол, перад ім букет шыкоўных кветак, а на самім стале — сьвечкі, слоікі з апэльсынавым сокам з гуманітарнай дапамогі ды шкляначкі.

Бацюшкі зь вернікамі, нібы на сходзе, сядзелі й слухалі членаў «прэзыдыюму», які да сьвятых абразоў сядзеў задам. Падабенства з партсходам толькі крыху псаваў неадпаведны колер тканіны на стале: замест чырвонай — зялёная. У «прэзыдыюме» сядзелі тав. Кебіч са сваім чалавекам, старшыня аблвыканкаму С.Домаш і матушка Гаўрыіла — кіраўніца мясцовага манастыра. Па сваёй завядзёнцы сталічны госьць гаварыў пра манны нябесныя, якія вось-вось пасыплюцца, калі бацюшкі памоляцца за яго. Калі ён скончыў, матушка Гаўрыіла паднесла яму вялізнае, большае нават за страўсінае (можа дыназаўравае?) яйка, размаляванае па-велікоднаму. Адразу прысутны хор грымнуў «Многая лета!» Ды гэтак, што ў тав. Кебіча выцізнулася сьлязіна. Пасьля гэтага бацюшкі ўсе разам кінуліся да Кебіча і, ледзьве не цалуючы яго, пачалі запэўніваць ва ўсялякай падтрымцы ў ягонай барацьбе. Калі цывільныя госьці пакінулі храм, стары айцец Уладзімер задзьмуў сьвечкі. Тымчасам задаволеныя бацюшкі разышліся групкамі з гарэліцай.

А кіраўніцтва Дзяржаўнага музэю гісторыі рэлігіі атрымала пасьля гэтага ўльтыматум: да 10 чэрвеня выселіцца з вуніяцкага кляштару. Аказваецца, гэта сам тав. Кебіч рукамі нябожчыка Арцымені высяляў музэй. Ён ня толькі забясьпечвае знаходжаньне на Беларусі расейскага войска, але і дбае пра выкананьне рашэньняў маскоўскага сьвятарнага сыноду мацаваць пазыцыі РПЦ на «западных рубежах Отчизны».

## „Тузэмскі ром" у Саюзе палякаў

Перад Домам паляка Кебіча сустракаў дзіцячы пікет з плякатамі «Мы хочам польскую школу», «Польскім дзецям — польскую школу» і г.д. Кебіч паабяцаў, што ў дзяржаўны плян на 1995 год улучыць будаўніцтва у Горадні Цэнтру польскай культуры і адной польскай школы. А заадно выказаў клопат па дыяспару. Маўляў, паспрыяйце, каб і беларусы на Беласточчыне таксама мелі ўсё тое, што мы тут для вас створым і пабудуем.

Потым старшыня СПБ Т.Гавін двойчы наліў прысутным зь літровай пляшкі «Тузэмскага» рому, і тав. Кебіч нават сказаў тост. Нешта накшталт таго, што мы павінны быць добрымі людзьмі, незалежна ад нацыянальнасьці. Дарэчы, ён сказаў, што дай каманду, каб «разыскали» ягонае генэалягічнае дрэва, і выявілася, што ў аднаго зь ягоных продкаў хросным бацькам быў ажно граф Тышкевіч. Але дзіўны сьвет: граф быў хросным у простага чалавека!

Госьць зазначыў, што сам папрасіў уключыць у сваю праграму візыт у СПБ, але ў ніякім разе ён не прыехаў як кандыдат у прэзыдэнты.

Дарэчы, у першыя дні чэрвеня Горадню збіраецца наведаць Мечыслаў Грыб.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

# Кебіч у ролі паломніка

**Штогод 20 траўня ў мястэчку Жыровічы, што паблізу Слоніма, адбываецца паломніцтва з нагоды зьяўленьня тут абраза Жыровіцкай Маці Божай.**

**Ужо на працягу пяці стагодзьдзяў людзі йдуць сюды за сотні кілямэтраў, каб пакланіцца цудатворнаму абліччу. Здавён павагу гэтаму сьвятому мейсцу аддавалі каралі, князі, просты люд, якія знаходзілі тут веру, надзею, спакой душы. А што шукаў там Вячаслаў Кебіч?**

10 гадзін раніцы. Жыровіцкі Сьвята-Ўсьпенскі сабор. Ідзе сьвяточная літургія. Некаторыя паломнікі, змарыўшыся за ноч, адпачываюць у цяньку на траўцы. Жанчыны з галінкамі бэзу ў руках, пакорліва прытуліўшыся адна да адной, зрабілі калідор, праз які пройдзе ўрачыстае шэсьце. Раз-пораз адна ў адной пытаюцца: «Калі нарэшце ён прыедзе?» Ён — гэта Кебіч.

«Дзе той Кебіч, каб ён згарэў!» — сярдзіта кажа адна з кабет. «Чаго ты злуеш на яго?» — пытаецца суседка. «А навошта ён хоча нас пад каталікоў аддаць?» — кажа тая. Але спрэчка скончаецца, бо ўвагу жанчын прыцягнуў малады служка, які хутка крочыў з паперкай у руцэ. Хтосьці падбег да яго, загаварыў. Разгарнуўшы лісты, той сказаў, што прэм'ера чакаюць а 12-й гадзіне. Трэба было разумець, што ўвесь сцэнар сьвята быў складзены пад самага важнага «паломніка».

Казалі, што рыхтавацца да сьвята тут пачалі загадзя. Божыя служкі, выхаванцы нядзельнай школы, паломнікі тыдзень шкраблі, мылі, прыбіралі манастыр, гатавалі ежу. Дый ня толькі яны рыхтаваліся. Мясцовыя ўлады таксама вырашылі паказаць сябе і за два дні зьнесьці старыя драўляныя пабудовы насупраць Дома саветаў, якія даўно псавалі выгляд цэнтральнай часткі Слоніма. (Але ім не пашанцавала — Кебіч сюды не завітаў.)

...Раптам люд замітусіўся. Людзі выцягвалі галовы і глядзелі ў бок, адкуль павінен прыехаць важны эскорт. Некалькі жанчын паспрабавалі прайсьці ў сабор. Але дарогу ім перагарадзілі дзецюкі-сэмінарысты. «Гэта чаму вы нас не пускаеце?» — пытаюцца кабеты. «Нельга. Нам загадалі ўжо нікога не пускаць». Аднак жанчыны аказаліся настырныя. Тут ужо хлопцы ўзмаліліся: «За непаслушэнства нас пакараюць: там жа Філарэт!» Сапраўды, неўзабаве выйшаў сам Уладыка. Зірнуўшы на натоўп, ён угледзеў непарадак і кінуўся сам пашыраць людзкі калідор. Было відаць, што яму гэта ўдавалася лепш, чым міліцыянтам. «Адкуль ён едзе?» — папытаўся нарэшце Філарэт у аднаго бацюшкі. «Адтуль», — той паказаў рукой. «О'кей», — задаволена адказаў Патрыяршы экзарх усяе Беларусі.

Праход быў вольны. І тут па ім ганарліва прайшлі два дзядзькі. У аднаго з кішэні бліснуў залацісты корак бутэлькі. «Паглядзі, як выстраіліся. Нібы прыезду прынцэсы чакаюць», — кінуў ён сваёму напарніку і смачна сплюнуў сабе пад ногі.

І вось запрацавалі затворы фотаапаратаў, замігалі бліскавіцы, загулі камэры... Кебіч троху пастаяў у саборы, а потым яго павялі аглядаць манастыр. У адным з пакояў быў падрыхтаваны стол. «Пачастуйцеся з дарожкі», — запрасіў Кебіча біскуп Канстанцін, рэктар духоўнай сэмінарыі. Адмаўляцца, вядома, было грэх. Тых, хто быў з камэрамі і блякнотамі, не пусьцілі — перад дзьвярыма стаў вялізны целаахоўнік з рацыяй.

А тым часам літургія завяршалася. Зазванілі званы, і з сабору выйшла сьвяточная працэсія ўдзельнікаў крыжовага ходу. Аднак прайшоўшы мэтраў трыццаць, працэсія раптоўна павярнула назад. Аказалася, што няма самага важнага паломніка, які затрымаўся са сваёю сьвітаю пры кубку гарбаты.

Аднак галоўная «трапеза» была наперадзе. Пасьля ўсіх урачыстасьцяў, адпяваньня Акафісту Прасьвятой Багародзіцы цудатворнага абраза Жыровіцкага, уладыка Філарэт запрасіў гасьцей да сябе ў рэзыдэнцыю. Яна разьмяшчаецца на другім паверсе аднаго з манастырскіх будынкаў. Туды таксама рэпартэраў не пусьцілі. Адзін з урадавых журналістаў сказаў, што пасьля таго, як Кебіч пачаў рэгулярна зьяўляцца на старонках газэты СВАБОДА з чаркаю ў руцэ, карэспандэнтам даваць перасталі.

А памочнікі прэм'ера тымчасам выцягвалі з багажнікаў кошыкі й скрынкі з бананамі, апэльсынамі ды іншымі прысмакамі. Праўда, сьвятыя айцы асобна запрасілі і журналістаў паспытаць манастырскай кухні.

Пад'еўшы, мы бавілі час у чаканьні. Паводле раскладу Вячаслаў Францавіч павінен быў наведаць будаўнічую пляцоўку мясцовага сельскагаспадарчага тэхнікума. Але афіцыйны друк пасьпяшаўся з гэтым паведамленьнем. На будоўлю прэм'ер так і ня трапіў. Не да таго яму было пасьля «трапезы» — хлопцы прычасьціліся няблага. Філарэт з Кебічам выйшлі з рэзыдэнцыі амаль што ў абдымку. Здавалася, што вось-вось яны засьпяваюць, а то і ў гапака кінуцца. Але ўсё абышлося толькі братнімі пацалункамі. Памочнікі чым хутчэй пасадзілі Кебіча ў лімузын. А вось Філарэта абкружылі паломнікі. Адна з жанчын зьвярнулася да яго з просьбай: «Уладыка, мы ўжо другі год будуем царкву, дапамажыце». «Галасуйце за Кебіча, усё будзе!» — адказаў уладыка.

**Янка ЗЯЗЮЛЯ**

**На здымках: разьвітаньне пасьля „трапезы"**

# У Кебіча ёсьць адзіны шанец выйграць — падтасаваць выбары

Мой сусед-пэнсіянэр пераканаfor: «Кебіч усё адно стане Прэзыдэнтам». Пытаюся ў яго: «Няўжо Вы будзеце галасаваць за Кебіча?» «Не», — кажа. «А жонка?» — «Не». — «А сын зь нявесткаю?» «Не». «А суседзі нашыя?» «Таксама не». — «Дык як жа ён тады стане Прэзыдэнтам?» — «Ня ведаю...»

Я таксама думаю, што Кебіч можа стаць Прэзыдэнтам. Але толькі ў адным выпадку: калі яму ўдасца падтасаваць выбары. Іншага шляху заняць прэзыдэнцкае крэсла ў яго няма. Колькі б урадавая прэса ды тэлевізія ні дурманілі насельніцтва, як бы калгаснае ды іншае начальства ні страшылі людзей — бальшыня выбаршчыкаў за Кебіча не прагаласуюць.

Знаёмы сацыёляг «па сакрэце» расказаў, што інстытут Івана Антановіча (галоўнага ідэёляга і прапагандыста Кебічавай кампаніі) правёў нядаўна закрытае апытаньне. І выявілася, што «калі б выбары адбываліся сёньня», за Кебіча прагаласавала б каля 40% апытаных. А за ім ідзе Пазьняк — 32%. Гэта пры ўсім тым, што нават закрытыя апытаньні былыя кампартыйныя функцыянэры робяць хутчэй за ўсё тэндэнцыйна — каб патрон нагамі на іх ня тупаў. А пра тыя «рэйтынгі», якія яны друкуюць у газэтах, і гаварыць няма чаго. Мой знаёмы сацыёляг кажа, што бальшыня гэтых апытаньняў фіктыўныя, іх ніхто не праводзіць, а толькі малююцца патрэбныя лічбы насуперак прозьвішчаў кандыдатаў. Словам — прапаганда.

А тое закрытае апытаньне нідзе, зразумела, не друкавалася. Антановіч прышпіліў да яго «рэкамэндацыі» аналітыкаў і перадаў у апарат Кебіча. Галоўны сэнс «рэкамэндацыяў» такі: хлопцы, трэба шукаць іншыя ходы, бо наш галоўны козыр пра аб'яднаньне грашовых сыстэмаў ужо не спрацоўвае.

Але хай Кебіч выкладзе цяпер хоць дзесяць новых козыраў — усё адно гэта яму мала дапаможа. Галоўны ягоны козыр — махлярства. Кебіч мае выдатныя магчымасьці сфальсыфікаваць вынікі выбараў, і няма ніякага сумневу, што ён будзе гэта рабіць. Ягоныя паплечнікі ў гэтай справе спрактыкаваныя, і, ратуючыся, яны ні перад чым ня спыняцца. Было б дзіўна, калі людзі, якім пагражае гадоў па 8—12 турмы і канфіскацыя маёмасьці, не скарысталі б апошні шанец.

Ужо падчас першага этапу (збор подпісаў) яны прадэманстравалі свае шулерскія здольнасьці. Вы дзе-небудзь бачылі, каб на вуліцы зьбіралі подпісы за Кебіча? Ці да вас у кватэру заходзілі з просьбаю падпісацца за яго? Не? А як жа тады яны назьбіралі 400 тысяч подпісаў?

Безумоўна, частку людзей прымусілі падпісацца на працы, дзе яны баяліся адмовіцца — такіх фактаў тысячы. Але ў гэтых выпадках была хоць нейкая законнасьць, прынамсі людзі ведалі, за што расьпісваюцца. Аднак калі належным чынам праверыць падпісныя лісты Кебіча, выявіцца, што тысячы й тысячы выбаршчыкаў нават не здагадваліся, за што папраўдзе яны расьпісваліся. У сельсаветах, бальніцах і г.д. ім казалі: «Пастаўце вось тут свой подпіс». Расьпісваліся бог ведае за што: за пэнсію, за даведку, за рэцэпт, за выпіску з працоўнай кніжкі, за чэк «Маёмасьць»... Пры жаданьні гэтыя фіктыўныя подпісы можна дастаткова лёгка выявіць. Бяры ліст, запоўнены адной рукой, і схадзі да двух-трох «падпісантаў». Але ў тэрытарыяльных выбарчых камісіях, якія павінны гэтым займацца, кіруе пераважна мясцовая намэнклятура, якая моліцца, каб Кебіч утрымаўся.

На выбарах будуць імкнуцца падтасаваць ня тысячы галасоў (гэтага мала), а сотні тысяч. Яны ня будуць таемна кідаць у урны па 5—10 бюлетэняў. Самы просты варыянт: выбраць зручны момант і замяніць скрынкі. Назіральнікі цэлы дзень будуць сачыць, каб людзі галасавалі толькі за сябе, каб захоўвалася свабода волевыяўленьня, каб не было іншых парушэньняў закону. А ў выніку — бюлетэні выбаршчыкаў у той жа вечар згараць яркім полымем, а на ўчастку высыплюць з урны такія ж самыя бюлетэні, дзе за Кебіча будзе 80—90%.

Згадайце публікацыі ў маскоўскай прэсе пасьля выбараў у расейскую Думу. Памятаеце, як у Бранску і яшчэ ў некалькіх мейсцах былі знойдзеныя пачкі няўлічаных бюлетэняў. Між тым, у расейскіх выбарах удзельнічалі магутныя палітычныя сілы, ад якіх была безьліч назіральнікаў, прэзыдэнт Ельцын быў зацікаўлены, каб прасачыць за мясцовымі адміністрацыямі.

У нас у гэтым сэнсе прасьцей. Уся ўлада — ад Менску і да самага глухога сельсавета — знаходзіцца ў руках адной палітычнай сілы. Выключэньне хіба што горад Маладэчна, дзе на Кебіча не працуе дзяржаўны апарат, і таму яму не ўдалося сабраць тут ніводнага подпісу. Малаверагодна таксама чакаць тут ягоных фальсыфікацыяў. Навошта рызыкаваць, калі ў ягоным распараджэньні ёсьць практычна ўся астатняя Беларусь. Тым больш што ў многіх раёнах, магчыма наагул ня будзе ніякіх назіральнікаў ад дэмакратычных кандыдатаў. Гэта вынікае з табліцы вынікаў збору подпісаў, апублікаванай у мінулым нумары СВАБОДЫ. Прааналізуйце яе: напрыклад, у палове раёнаў Гомельскай вобласьці, у некаторых раёнах Магілёўскай ніхто, акрамя Кебіча з Новікавым, не зьбіраў подпісы, бо не было каму зьбіраць — няма структураў. Дык адкуль возьмуцца назіральнікі?

Надрукаваць пару мільёнаў бюлетэняў для падстаўкі — не праблема. І яны нічым не будуць адрозьнівацца ад законных: дакладна такая ж папера, такія самыя шрыфты і г.д. Усё астатняе — таксама справа тэхнікі плюс «спрытнасьць рук» (на заключным этапе).

Адна з магчымых падстраховак — дамагчыся ад Цэнтральнай выбарчай камісіі, каб яна пастанавіла апячатваць урны з подпісамі ўсіх членаў участковай камісіі — хоць нейкая засьцярога.

Аднак ясна, што Кебічава каманда будзе ісьці ва-банк. Пераканаены, што яны распрацавалі ўжо свае варыянты. Важна не дапусьціць хаця б масавых падтасовак, ня дацъ магчымасьці зрабіць мільён фальшывых галасоў.

Пятро ПАНКРАТОВІЧ

## «Наіўна думаць, што мы ўступілі ў посттаталітарную эпоху, што нібыта наступае царства дэмакратыі»

**Такімі словамі Васіль Быкаў пачаў свой выступ на адкрыцьці міжнароднага кангрэсу ў абарону дэмакратыі і культуры, які праходзіў на мінулым тыдні пад Менскам.**

Кангрэс «Посттаталітарнае грамадзтва: асобы і нацыя» быў арганізаваны Беларускім ПЭН-цэнтрам пры фінансавай дапамозе фонду Сораса. Каб абмеркаваць становішча, у якім апынулася творчая інтэлігенцыя краінаў былога СССР пасьля развалу сыстэмы, якая праіснавала больш за 70 гадоў, сабраліся вядомыя пісьменьнікі, паэты і журналісты Беларусі, Расеі, Украіны, Літвы, Латвіі, а таксама іхныя калегі з ЗША, Нямеччыны, Чэхіі, Польшчы.

Адной з асноўных тэмаў, абмеркаваных на кангрэсе, была праблема абароны свабоды творчасьці і распаўсюджваньня інфармацыі. Падкрэсьлівалася, што фінансавая залежнасьць бальшыні газэтаў ды іншых СМІ ад ураду вядзе да замоўчваньня падзеяў ды інфармацыі, ня могуць выказаць сваю думку ня толькі журналісты, але і народныя дэпутаты.

Недасканалае заканадаўства прывяло да судовых перасьледаў журналістаў. Цяпер у судах знаходзіцца каля 60 справаў супраць журналістаў. Неабходна ўнесьці зьмены й дапаўненьні ў артыкулы Грамадзянскага кодэксу Рэспублікі Беларусь і законапраект аб СМІ, якія тычацца абароны журналістаў і выданьняў ад неабгрунтаваных прэтэнзіяў і абвінавачваньняў. Трэба прадугледзець грамадзкі кантроль за разьмеркаваньнем бюджэтных сродкаў, якія выдаткоўваюцца на СМІ, захаваньне прэзумпцыі невінаватасьці журналістаў пры разглядзе справаў аб абароне гонару й годнасьці ў судах.

Андрэй ШАСТОЎСКІ, РІД

здымак аўтара

На здымку: група ўдзельнікаў кангрэсу



## «Какой-то человек» зь Беларусі на трыбуне Думы

**Нядаўні візыт Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву і ягоны адыёзны выступ на паседжаньні Дзяржаўнай думы ўразіў нават звыклых да скандалаў маскоўскіх рэпартэраў. Вось што пра гэтае здарэньне напісала ў нумары ад 20 траўня газэта «Московский комсомолец». Падаем цытату з артыкула «Ух ты, ах ты, все мы дипломаты»:**

«В Государственной Думе, судя по всему, открылся месячник дипломатической самодеятельности. Часть прошлого пленарного заседания коммуно-аграрии подарили какому-то человеку, который, взобравшись на трибуну, практически попросил Думу сделать его президентом Белоруссии, а уж он за это посадит 70 белорусских демократов-рыночников за решётку».

Як бачым, ні паездкі Вячаслава Кебіча да Чарнамырдзіна, ні паклоны таварыша Лукашэнкі Думе не прыводзяць ні да якіх грунтоўных зьменаў. Адзінае, што выклікаюць падобныя важжы — гэта здаровы і працяглы сьмех.

В.Г.

## Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

### Пра зубы

Сябра мне неяк кажа: «Калі ты пішаш свае нататкі пад рубрыкай «Сёньня», ты кожны раз імкнесься выклікаць у сябе адчуваньне сёньняшняга дня, але выклікаеш галюцынацыі". Сябра не памыляецца. На Беларусі няма «сёньня», ёсьць учора і заўтра, а паміж імі — галюцынацыі. Гады з тры нічога не адбываецца пад рубрыкай «Сёньня», а тое, што адбываецца — або ўжо адбылося і запісваецца ў мінулы пэрыяд гісторыі, або некалі адбудзецца і цалкам належыць заўтрашняму дню. Так у літаратуры, у палітыцы, у сьвядомасьці цэлага народу. Адзін літаратар сказаў неяк: «Мяне, беларускага нацыяналіста, лепш разумеюць у Польшчы, ці ў Штатах, ды дзе заўгодна, толькі не на Беларусі, таму што тут няма яшчэ беларускае дзяржавы. Яна будзе праз дзесяць ці дваццаць гадоў, і тады непаразуменьне зьнікне». Але літаратар можа пісаць у стол. Цяжэй палітыку, напрыклад, Міколу Статкевічу, які адпавядае заўтрашняй беларускай дзяржаве і не адпавядае гэтай, якая яго забараніла. Яшчэ цяжэй нармальнаму чытачу нармальнага «заўтрашняга» літаратара, бо яму выпадае як бы жыць «у стол».

Сапраўды галюцынацыі. Можа, мне зьмяніць рубрыку маіх нататак. Але якая карысьць ад мрояў, якімі і без таго поўныя беларускія сродкі масавай інфармацыі. Хіба што «Мы и время» піша пра сёньня — сёньня, якое ўчора. А якое сёньня, якое заўтра?

Што ў нас ёсьць на рахунку новай заўтрашняй Беларусі? У палітычным сэнсе пакуль што — толькі інтарэсы. Рэальныя інтарэсы, якія трэба рэальна бараніць. А гэтым не займаецца ні ўчарашняе войска, ні галюцынацыйная дзяржава.

Адзіная спроба выказаць беларускую дактрыну — гэта заява БЗВ «Аб антыдзяржаўнай дзейнасьці», дзе БЗВ папярэджвае тых асобаў, якія плянуюць здаць Беларусь Маскве, што падобная дзейнасьць «можа трагічна скончыцца для іх асабіста». Сярод масы словаў пра нэўтралітэт, бязьядзернасьць і г.д., што ёсьць толькі добрымі пажаданьнямі, заява БЗВ — адзіны тэарэтычны дакумант, дзе крытэрыем прапануецца практыка.

Зразумела, гэта толькі фрагмэнт нейкай дактрыны, але ў ім зададзены асноватворны прынцып — беларуская дзяржава мусіць бараніць сябе, ня можа быць беспакаранасьці. Тры тысячы актывістаў БЗВ, узброеныя такім фрагмэнтам, выглядаюць прыярытэтна нават перад армадаю былога савецкага войска на Беларусі, у якога сваёй практычнай дактрыны няма і ня можа быць.

Калі ж гэты фрагмэнт перарасьце ў цэлую дактрыну і будзе пашыраны на абарону інтарэсаў грамадзяніна, работніка і г.д. — тады ўсе адчуюць рэальнасьць беларушчыны сёньня. Адна рэч «выступаць» супраць незалежнасьці, мовы і Пагоні як бы ў галюцынацыі, і зусім іншае — цьвярозна ўсьведамляючы, што пасьля гэтых словаў, калі ня сядзеш у турму, дык прынамсі будзеш плаціць за зубныя пратэзы. Першая кара — паводле юрыдычнага права, другая — паводле маральнага. У сытуацыі, калі наш учарашні Вярхоўны Савет прымае галюцынацыйныя законы, прыярытэт і прызнаньне маральнага права ў грамадзкай сьвядомасьці неаспрэчныя. Зубы ў роце — што можа быць больш рэальнага **сёньня**?

# Вялікаму прэм'еру — вялікае плаваньне

## Ці будзе Кебіч з Чарнамырдзіным дзяліць латвійскі флёт?

Гады тры таму дэпутат ВС Алег Трусаў выступіў зь ідэяй стварэньня беларускага флёту, чым выклікаў зьедлівы сьмех у лягеры камуністаў ды іранічныя жарты калег-дэмакратаў. Тая ідэя адгукаецца яму і зараз, калі журналісты й палітыкі, жартуючы, прарочаць Трусаву партфэль марскога міністра ў кабінэце прэзыдэнта Шушкевіча.

Хто б ведаў, што прапанову сп. Трусава возьме на ўзбраеньне і пачне апантана адстойваць ня менш вядомы нардэп, а па сумяшчальніцтве і прэм'ер-міністар Вячаслаў Кебіч, які, праўда, спрабуе пры гэтым парушыць міждзяржаўныя дамоўленасьці і рызыкуе справакаваць новы передзел маёмасьці былога СССР.

Рэч у тым, што ўся маёмасьць былога Саюзу, у тым ліку і неваенны флёт, на частку якога прэтэндуе сп.Кебіч, была падзеленая пасьля распаду СССР паводле «нулявога» варыянту: уласнасьцю былой саюзнай рэспублікі станавілася ўся маёмасьць на ейнай тэрыторыі. Такім чынам Беларусь атрымала ва ўласнасьць БелАЗ, МАЗ, іншыя буйныя й дробныя прадпрыемствы, пабудовы і г.д. Такім жа чынам неваенныя караблі сталі ўласнасьцю тых краінаў, да партоў якіх былі прыпісаныя. У выніку з флётам засталіся Расея, Украіна, Азэрбайджан, Грузія й краіны Балтыі.

В.Кебіч пачаў прыкладаць усе намаганьні ды СНДоўскі аўтарытэт, каб адхапіць кавалак ад марскога пірага. Упершыню пытаньне было ўзьнятае на паседжаньні Рады кіраўнікоў урадаў краінаў СНД 26 чэрвеня 1992 году. Вырашылі стварыць камісію дзеля падрыхтоўкі пагадненьня. Камісія праіснавала нядоўга. 9 кастрычніка таго ж году кіраўнікі краінаў СНД палічылі працяг ейнай дзейнасьці нямэтазгодным.

Аднак у студзені 1993 г. В.Кебіч зноў узьняў гэтае пытаньне. З таго часу падзел флёту двойчы абмяркоўваўся на паседжаньнях каардынацыйна-кансультацыйнага камітэту СНД, адзін раз на паседжаньні міністраў замежных справаў дзяржаваў СНД, адбылося дзьве сустрэчы экспэртаў краінаў Садружнасьці (апошняе — на мінулым тыдні ў Менску). Справа не пасунулася ні на крок — усё «псуюць» прыбалты, якія ніяк ня хочуць дзяліцца набытаю маёмасьцю, не пасылаюць прадстаўнікоў на ўсе гэтыя сустрэчы і нават не адказваюць на запросіны Міністэрства замежных справаў Беларусі. Не гараць вялікім жаданьнем дзяліцца флётам і астатнія краіны СНД, якія атрымалі яго ў спадчыну ад СССР.

Кіраўнік дэлегацыі Азэрбайджана на апошняй сустрэчы экспэртаў сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ: «Калі мы павінны аддаць Беларусі частку сваіх караблёў, дык чаму б ёй не аддаць нам некалькі цэхаў БелАЗу ды іншых прадпрыемстваў, якія будаваліся і на нашыя грошы?»

Да таго ж пры новым падзеле могуць узьнікнуць праблемы, як яго праводзіць — або па танажы (вага грузу), або па тыпе караблёў (гандлёвыя, пасажырскія), або яшчэ неяк.

Аднак Вячаслаў Кебіч не супакойваецца. Беларуская дэлегацыя на апошняй сустрэчы экспэртаў выказала намер зьвярнуцца да Андрэя Козырава, які цяпер старшынюе ў Радзе міністраў замежных справаў СНД, каб той у сваю чаргу зьвярнуўся да МЗС краінаў Балтыі з просьбай разгледзець магчымасьць удзелу прадстаўнікоў Літвы, Латвіі й Эстоніі ў перамовінах наконт новага падзелу флёту.

Незалежныя экспэрты мяркуюць, што "патрыятычная" актыўнасьць Кебіча тлумачыцца больш празаічнымі прычынамі. Рукамі Вячаслава Францавіча Масква спрабуе ўцягнуць у маёмасныя сваркі перадусім краіны Балтыі і Украіну, каб аднавіць іхную залежнасьць ад "вялікага брата".

**Ян КАМОЦКІ**

# Графа ў пашпарце

### Дзякуй партыі ды ўраду

Калі я ўпершыню даведаўся, што ў нашым пашпарце ня будзе графы «нацыянальнасьць», я быў даволі зьбянтэжаны. Вядома, што амаль ва ўсім сьвеце так. Але ж мы ня ўвесь сьвет, мы — своеасаблівыя! Безумоўна, мае хваляваньні мелі збольшага эмацыйны характар, а таму я вырашыў разважаць рацыянальна. Заклікаю да цьвярозасьці ў развагах і ўсіх астатніх.

Сёньня ў сьвеце нацыянальныя меншасьці або аўтаномныя ўтварэньні імкнуцца да незалежнага існаваньня. Гэта, бадай, натуральна. Дзяржава зацікаўлена ў адваротным — у яшчэ большай, мацнейшай згуртаванасьці. У СССР, прыкладам, дзеля яе прыдумалі «новую историческую общность людей» — савецкі народ. Каб чукча, кіргіз, эстонец, беларус пачуваліся аднолькавымі, савецкімі. А ў сьвеце ўсіх нас разам называлі рускімі, паколькі, як вядома, «великая Русь» нас «скрепила навеки». Калі нашае пытаньне разглядаць з гэтага гледзішча, дык пашпартная графа нас уратавала. Праўда, атрымалася, што колькасьць беларусаў не павялічвалася. Беларусы сотнямі тысячаў перлі на Ўсход, у Азію: на цаліну, Урал ды Сібір, увогуле ў Расею, дзе не жадалі «кичиться» сваёй беларускасьцю, раствараліся ў асяродзьдзі. Але гэта ўжо дэталі. Як там ні было, але графа «нацыянальнасьць» уратавала самы савецкі з усіх савецкіх народаў, найбольш схільны да дэнацыяналізацыі, ад страты свайго імя й зьнікненьня. Карацей кажучы, дзякуй партыі ды ўраду, што памыліліся ў гэтай справе, ня ўсё дадумалі.

### Другі бок мэдаля

Але гэта толькі адзін бок мэдаля. Калі разглядаць праблему з «гарадзенскай званіцы», дык праз гэтыя савецкія пашпарты адная толькі шкода, бо каталікоў машынальна запісвалі ў палякі і цяпер іх аніякай трасцай не прымусіш «беларусамі звацца». Прычым палякі — і нашыя, і з Польшчы — штораз, калі заходзіць мова пра статыстыку, асьцярожна выказваюць няверу да пэўнай лічбы. Я таксама ніколі ня верыў, але не гаварыў пра гэта ўголас. Маўляў, можна пашкодзіць кволай пакуль беларускай справе. Але няма сэнсу хаваць галаву ў пясок. Не дапаможа. Ну сапраўды, ці можна паверыць, што на Беларусі ўсяго 440, здаецца, тысяч палякаў, зь якіх на адной толькі Гарадзеншчыне жыве 330 тысяч? На маю прыватную думку, іхная бальшыня — беларусы каталіцкае веры, некалі вуніяты. Аднак гэта ўжо незваротна, і мая думка ня можа мець аніякага значэньня й вагі. У пашпарце ясна запісана: «паляк», і трэба лічыцца зь ягоным посьбітам і паважаць яго. Бо пра тое ж самае крычаць нам і з Усходу: маўляў, усе мы — руския.

### Беларускія палякі

Большасьць нашых палякаў, як і астатнія беларусы, моцна ссаветызавалася, бо наш народ, як мы пагадзіліся, аказаўся найбольш прыдатным да асыміляцыі. Выявілася, што не такая ўжо вялікая розьніца, ці ты з каталікоў, ці з праваслаўных. Уплыў сьвятароў на люд быў вельмі абмежаваны, а праваслаўныя ўвогуле заклікалі любіць родную савецкую ўладу. Аднак вернемся да беларускіх палякаў. Найбольш сьведамай, нонканфармісцкай часткі польскасьць давала крыніцу ўласнае годнасьці, нутранога апірышча, раўнавагу (як нешматлікім сьведамым беларусам дапамагала трываць веданьне, што ня ўсё яшчэ страчана, што на эміграцыі існуе беларускі ўрад, беларускае вольнае слова). Польскасьць — як прыкмета шляхотнасьці. Савецкаю нормаю было мець і казырваць простым рабоча-сялянскім паходжаньнем. Але ж плябейшчына ня ўсіх спакушала нават тады.

Аднойчы ледзь не сам я даведаўся, што мой сярод продкаў нейкага штабс-капітана Лапіцкага, ад чаго адразу пацяплела на душы. Гэтак і з пальшчызнаю. Адчуваць сябе палякам значыла не даршыць быць звычайным, як усе, савецкім чалавекам. Бо зусім не адно і тое выгадаваць у сабе пагарду да свайго «дзераўенскага акцэнту» і ўсялякі вылузвацца, толькі каб «гаварыць правільна, як усе нармальныя людзі» (бо «нармальных» была цэлая Расея), і быць палякам, значыць належаць да замежнага, несавецкага народу. Розьніца істотная.

У нутраным маўклівым супраціве гвалтоўнай савецкай уніфікацыі беларускага народу больш трывалымі, прычым менавіта беларусамі, асабліва калі параўноўваць з усходнікамі, засталіся якраз нашыя палякі. Апошні перапіс паказаў, што на Гарадзеншчыне немалая частка палякаў (нават параўнальна з пашпартнымі беларусамі) валодае беларускай мовай і карыстаецца ёю. Апытаньне, якое праводзіў абкам напярэдадні прыняцьця Закону аб мовах, таксама засьведчыла, што палякі часта выказваліся за адную дзяржаўную мову — беларускую. Самі ж беларусы, прычым часьцей сярод інтэлігенцыі, нярэдка выяўлялі канфармізм. Такім чынам, нашыя палякі часам больш трывалыя, нутрана перакананыя беларусы, чымся пашпартныя «браткі».

### Дэвальвававанае імя

З усяго вынікае, што пры кволасьці беларушчыны запіс у пашпарце не ўратуе, а, наадварот, часткова парушыць статус-кво. Апошнім часам павялічваецца колькасьць заяваў з просьбай перапісацца ў палякі. Ганебна, што на Віленшчыне большасьць падобных «перапісантаў» аказалася беларусамі. Гэтым імем не прывыклі даражыць. Спыніць дэвальвацыю нацыянальнасьці «беларус» можна толькі скасаваўшы адпаведную графу ў новым пашпарце. Бо інакш, будзьце пэўныя, тымі ж палякамі пазапісваецца значна больш люду. Апошнімі гадамі досьвед адсылкі абітурыентаў у Польшчу на вучобу паказаў, што дзеля гэтага бацькі часам вышукваюць у сваіх дзяцей хоць якую восьмую-дзясятую частку польскай крыві.

Быць палякам ганарова. Быць беларусам стане прэстыжна, толькі калі пачне будавацца сапраўдная беларуская дзяржава, якая перадусім паважае сама сябе, без чаго марна чакаць павагі з боку іншых. Тады ўсе мы будзем беларусамі дзяржаўна, і нам ня будзе сорамна прызнацца за мяжой, адкуль і хто мы ёсьць. Вось калі царкоўна-касьцельны падзел і пашпартная графа зусім страцяць якое-колвечы значэньне. Прыкладам можа служыць тая ж Польшча. Беларусы-каталікі даўно і назаўжды страчаныя для беларушчыны ў Польшчы. Аднак і падзел паводле веравызнаньня (праваслаўны, значыцца — беларус) праз цэнтраімклівыя і па сутнасьці асыміляцыйныя працэсы таксама ня вытрымаў выпрабаваньня гадоў. Паводле польскай статыстыкі, толькі 25, а нават і ўсяго 15% праваслаўных на Беласточчыне залічаюць сябе да беларусаў. Калі ў Менску нарэшце стане ўмацоўвацца менавіта беларуская, як у Варшаве польская, дзяржаўнасьць, дык падобных працэсаў, няхай сабе слабейшых, можна спадзявацца і ў нас. Я перакананы, што гэта магчыма. Пра тое сьведчыць прыклад М.Грыба, які палічыў патрэбным публічна даводзіць, што ён зусім не паляк, а беларус.

### Чарга па грамадзянства

Нацыянальнасьць — рэч score нематар'яльная. Грамадзянства — іншая справа, яно функцыянальнае, часам пільна патрэбнае. Выехаць за мяжу, напрыклад, у Польшчу, можа паспрыяць запіс «паляк». Выехаць за мяжу ўвогуле дапаможа толькі штампік пра грамадзянства. Нездарма ж, калі гэтае правіла было ўзаконена, у авірах пачаўся бабілёнскі гармідар, чэргі займалі з ночы. І ўсё дзеля таго, каб атрымаць пазнаку «Грамадзянін Рэспублікі Беларусі».

Скасаваньне графы дапаможа самаму савецкаму народу змагчы ў сабе комплекс «гома саветыкус». Сёньня ж гэтая графа толькі нагадвае нашым людзям, што яны ўжо 70 ці нават болей гадоў савецкія беларусы, якіх савецкая ўлада нарадзіла, узгадавала, вывучыла і дала «пуцёўку ў жыцьцё». Карацей, зьляпіла паводле ўласных патрэбаў. Калі ж у пашпарце будзе пазначацца толькі грамадзянства, беларусы, магчыма, нарэшце адчуюць, што яны жыхары іншай, асобнай дзяржавы. Не СССР і нават не БССР.

Для бальшыні людзей самавызначэньне — справа ў жыцьці зусім не вырашальная, наагул другарадная. Прачнуўся раніцай — і ў прыбіральню, зубы шараваць, сьнедаць, потым на працу. Думкі пра надвор'е, час (ці не спазьнюся?), аўтобус, грошы. І якая розьніца, хто я паводле пашпарту? Назвалі па нараджэньні Пятром або Іванам, запісалі беларусам — і няхай сабе. Дапусьцім, што абвесьцяць цяпер, пры ўваходжаньні ў «кебічаву» зону, што ўсе, прыкладам, тунгусы атрымаюць дадаткова па тысячы, а яшчэ лепш дзесяць тысяч расейскіх рублёў — і палова пабяжыць перапісвацца на тых тунгусаў. Бо такое ўжо было. У 1919-ым, у перыяд паміж бальшавіцкай і польскай акупацыямі Горадні, Беларускі нацыянальны камітэт абвясьціў, што прадуктова падтрымае мясцовых беларусаў, і выявілася, што амаль усе гарадзенцы прагнуць быць менавіта беларусамі.

### Несьвядомыя бацькі й працэнты

Мне зразумелая заклапочанасьць патрыётаў скасаваньнем пашпартнае графы. Але я паспрабаваў разважаць, распачынаючы ад адваротнага. На маю думку, захаваньне пашпартнае графы беспэрспэктыўнае. Досыць падзелу па нацыянальнасьцях! Няхай лепш нас усіх гуртуе і ўраўноўвае адзінае беларускае грамадзянства.

Палякі сёньня наракаюць на несьвядомасьць бацькоў, якія ня хочуць аддаваць дзяцей у польскія клясы. Але пачакайце: польскія дзеячы будуць патрабаваць нацыянальнае школы для ўсіх палякаў. Нагадаю, што ў некаторых раёнах Гарадзенскай вобласьці насельніцтва на 85—95% складаюць палякі. Я асабіста ня супраць польскай або якой іншай школы. Я толькі хачу сказаць тым патрыётам, якія бядуюць з-за пашпартнай графы, што яны несьвядома дзейнічаюць супраць сябе і ўласных перакананьняў. Адзнака ў пашпарце пра нацыянальнасьць — анахранізм.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Нафта будзе каштаваць Украіне ўдвая таньней

**Учора, 23 траўня, урадавая дэлегацыя Ўкраіны падпісала пагадненьне з Татарстанам і Башкартастанам пра пастаўкі нафты на Ўкраіну.**

Цяпер Украіна будзе плаціць сваім новым партнэрам за тону нафты $60, тымчасам як Масква патрабуе па 127 даляраў.

Варта нагадаць, што ў 1992 г. Беларусь таксама мела непасрэдную дамову з Башкартастанам, які выканаў пагадненьне, і нас тады не зачапіў паліўны крызыс. Аднак пазьней Масква параіла беларускаму ўраду не заахвочваць сэпаратызм аўтаноміяў (менавіта тады гэтае пытаньне было найбольш вострым для Расеі) і заключаць міжурадавыя пагадненьні толькі з Расейскаю Фэдэрацыяй. Такіх пагадненьняў летась падпісалі некалькі, аднак ніводнае не было выканана, у выніку чаго ў 1993 г. мы зьведалі вялікія паліўныя праблемы.

Ян ГРЭЧЫЦ

# Эстонцам дапамога ўжо не патрэбная

**Амэрыканскае Агенцтва міжнароднага разьвіцьця плянуе паступова спыніць дапамогу Эстоніі ды Чэхіі. Прычына ў тым, што гэтыя краіны пасьпяхова пераадолелі цяжкасьці, зьвязаныя зь пераходам да рынкавай эканомікі, і ня маюць вялікай патрэбы ў заходняй падтрымцы.**

Да прыкладу, за час правядзеньня рэформаў Эстоніі ўдалося зьнізіць узровень інфляцыі са 100 да 5 працэнтаў на месяц, а ўзровень беспрацоўя там цяпер не перасягае 3,8%. Эстонскае крона сталася канвэртаванаю валютаю, і каля 7000 замежных інвэстараў ужо ўклалі свае грошы ў разьвіцьцё эстонскае эканомікі. Гэтая невялікая балтыйская краіна здолела за вельмі кароткі тэрмін пераарыентавацца на Захад і, на думку спэцыялістаў Агенцтва, мае патрэбу не ў дапамозе, а ў раўнапраўным супрацоўніцтве з разьвітымі краінамі.

Узровень дапамогі Эстоніі ды Чэхіі будзе зьніжаны ў 1995 г. да 6 млн. даляраў. У наступным годзе Агенцтва міжнароднага разьвіцьця мае намер скараціць дапамогу Славаччыне й Латвіі.

Вінцук ШОСТКА

# Латвія думае пра абарону

**Бліжэйшым часам на разгляд кабінэту міністраў Латвіі будзе ўнесены праект Закону пра абарону. Неўзабаве пачнецца і абмеркаваньне вайсковае дактрыны гэтай прыбалтыйскай краіны.**

Цяпер латвійскае рэгулярнае войска налічвае ня болей за 5 тысяч чалавек. Яго падмацоўваюць народныя апалчэнцы зь сілаў аховы краю «Zemes sardzība». Апалчэньне, паводле розных зьвестак, мае ад 25 да 30 тысяч байцоў. У кожнага зь іх дома захоўваецца аўтамат Калашнікава. Створаная на швайцарскі ўзор, ахова краю можа хутка мабілізаваць усе свае сілы, якія, зрэшты, не вылучаюцца вялікаю прафэсійнаю падрыхтоўкаю й дысцыплінаю. Што да латвійскіх ВПС, дык яны яшчэ ня выйшлі з зародкавае стадыі: на іхным узбраеньні пакуль толькі 2 самалёты і 6 шрубалётаў.

Новыя законапраекты прадугледжваюць, што рэгулярнае войска Латвіі будзе складацца зь дзьвюх частак. Вайсковую службу будуць праходзіць рэкруты, якія маюць латвійскае грамадзянства. Плянуецца таксама, што тэрмін абавязковае службы будзе скарочаны з 18 да 12 месяцаў.

Вінцук ШОСТКА

# Палякі эксгумуюць масавыя пахаваньні

**Польскія археолягі пачынаюць эксгумацыю польскіх палонных, што загінулі у савецкіх лягерах Катынь і Меднае.**

У Катынскім лесе на абшары 100 га масавыя забойствы адбываліся з 1937 г. Там ляжаць людзі розных нацыянальнасьцяў, сярод якіх трэба будзе адшукаць магілы палякаў.

У мейсцы пахаваньняў «Меднае» паблізу Цьверы спачывае 6200 польскіх палонных: паліцыянтаў, памежнікаў, супрацоўнікаў судоў і адміністрацыі.

З уладамі Цьверы ўзгоднена мейсца разьмяшчэньня будучых могілак, якія, каб зьмясьціць усе магілы, мусяць мець плошчу прынамсі 1,5 га.

В.Г.

# Расея — рассаднік злачыннасьці

**Расея перажывае крымінальны бум. У 1993 г. было зарэгістравана 2,76 мільёна злачынстваў; міліцыя затрымала 54 т наркатычных сродкаў (у 1992 г. — 20 т); было скрадзена 19000 аўтамабіляў (у 1992 г. — 12000). Колькасьць забойстваў за апошнія пяць гадоў патроілася. Паводле найноўшых статыстычных зьвестак, цяпер у Расеі на кожныя 100.000 чалавек прыпадае 19,9 забойстваў. Гэта ўдвая перавышае адпаведны паказьнік у ЗША.**



Паводле Міністэрства бясьпекі, цяпер у Расеі дзейнічаюць 5700 арганізаваных злачынных груповак, што на 30% болей, чым год таму. 150 зь іх ацэньваюцца як вялікія (ад 1500 да 2000 удзельнікаў). Маскву апанавала каля сотні груповак, бальшыня зь якіх фармавалася паводле этнічных прыкметаў. Напрыклад, чачэнцы спэцыялізуюцца на рэкеце й крадзяжох аўтамабіляў, азэрбайджанцы кантралююць наркатычны сэктар, грузіны — прастытуцыю.

Праблема ў тым, што арганізаваная злачыннасьць расьце разам зь легальным прадпрымальніцтвам. Паводле ацэнак Міхаіла Ягорава, начальніка аддзелу барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю Міністэрства ўнутраных справаў Расеі, расейская мафія валодае блізу 40 тысячамі фірмаў. На думку дырэктара ЦРУ Джэймза Вульсі, злачынныя колы кантралююць каля 40% расейскай эканомікі. Такім чынам, расейская мафія, нароўні з амэрыканскай, ставіць пад пагрозу бясьпеку ўва ўсім сьвеце.

**Паводле газэты *Die Woche* падрыхтаваў Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

# Фашыстоўскі канцлягер у руках НКВД

**Нямецкія гісторыкі выявілі нядаўна ў маскоўскіх архівах сэнсацыйныя дакуманты пра фашыстоўскі канцлягер Заксэнхаўзэн.**

Рэч у тым, што гэтае мейсца масавых забойстваў у жніўні 1945 г. перайшло пад кантроль НКВД. І чэкісты захавалі профіль лягера. Там у невыносных умовах яны ўтрымлівалі 50000 вязьняў — як нацыстаў, гэтак і працаўнікаў новага камуністычнага рэжыму, што ўсталяваўся ва Ўсходняй Нямеччыне. Ад голаду ў канцлягеры загінула 30000 чалавек. Рэшту вязьняў выпусьцілі на волю ў 1950 г.

Новыя зьвесткі з раней засакрэчаных расейскіх архіваў дазволілі нямецкім гісторыкам адшукаць мейсцы масавых пахаваньняў людзей, што памерлі ад катаваньняў і голаду ў энкавэдзісцкім канцлягеры Заксэнхаўзэн.

Вінцук ШОСТКА

# 5.000.000 дойчэмарак за інфармацыю

**Нямецкая камісія, што займаецца пошукам страчаных актываў былой кампартыі ГДР, атрымала 200 зваротаў з таго часу, як два тыдні таму абвясьціла, што за дапамогу ў пошуку прапануе ўзнагароду ў памеры 5 млн. дойчэмарак.**

Каля 25 зваротаў прыйшло з бастыёну банкаўскіх таямніцаў — Швайцарыі. Узнагарода будзе падзеленая між тымі, хто перадаў ключавую інфармацыю. Швайцарская пракуратура й нямецкія сьледчыя службы працуюць разам над дзьвюма справамі, якія павінны вывесьці на сьлед 500 млн. марак, пераведзеных, хутчэй за ўсё, на швайцарскія рахункі.

В.Г.

# Прывабныя мадзяры

**Самая прывабная для заходніх інвэстараў краіна ў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе — гэта Вугоршчына. На другім мейсцы стаіць Расея. Такія зьвесткі ўтрымлівае спавешчаньне Эўрапейскай эканамічнай камісіі ААН.**

Агульная велічыня інвэстыцыяў у гэтым рэгіёне на пачатак 1994 г. склала 18,3 млрд. USD. З гэтай сумы на Вугоршчыну прыпала 6 млрд. Расею — 3,1 млрд., Польшчу — 2,1 млрд., на Чэхію — 2 млрд.. Наступныя мейсцы занялі Румынія, Украіна, Славаччына й Баўгарыя.

77% інвэстыцыяў, укладзеных у вугорскую эканоміку, паходзяць з Заходняй Эўропы, і толькі 5% — з ЗША. У Польшчы доля амэрыканцаў сягае 39%.

*Reuter*

## Праграма 8-га каналу з 24 па 29 траўня

**Аўторак, 24 траўня**
18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.25 Муз. праграма.
19.00 «Лябірынт правасудзьдзя».
19.50 Студыя «ИНТЕКС» прэзэнтуе: «Навіны».
20.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
20.30 Тэлесэрыял «Марэна Кляра». 12 сэрыя.
21.20 Падарожны журнал. «Антыльскія выспы».
21.45 Прыгоды... дэтэктывы... «Ні жывы, ні мёртвы». Маст. фільм.

**Серада, 25 траўня**
18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.20 Муз. праграма.
18.50 Журфак БДУ прэзэнтуе...
19.00 «Хіл-стрыт Блюз».
19.50 «Солтэк» прэзэнтуе: «Навіны».
20.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
20.30 Тэлесэрыял «Марэна Кляра». 13 сэрыя.
21.20 Хатні доктар.
21.45 Клясыка кінэматографу. «Гарбун». Маст. фільм.

**Чацьвер, 26 траўня**
18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.20 Муз. праграма.
19.00 «Лябірынт правасудзьдзя».
20.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
20.30 Тэлесэрыял «Марэна Кляра». 14 сэрыя.
21.25 «Файт». Кікбоксынг.
21.45 Дэтэктыў... Баявік... «Нябачны забойца». Маст. фільм.
23.10 Муз. праграма.

**Пятніца, 27 траўня**
18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.25 Муз. праграма.
18.55 «Солтэк» прэзэнтуе: «Дарэміфасолькі».
19.00 «Хіл-стрыт Блюз».
20.00 Мультфільм «Вальтрон».
20.30 Тэлесэрыял «Марэна Кляра». 15 сэрыя.
21.20 Час мясцовы.
21.40 Фантастыка на экране. «Зямля Саньнікава». Маст. фільм.
23.10 Муз. праграма.

**Субота, 28 траўня**
15.00 Мультсэрыял «Трансформэры». 11—12 сэрыі.
15.40 Дак. фільм. «Малады чалавек танчыць».
16.30 Прапаведнік Кенэт Копленд.
17.00 Сямейны экран. «Да пershай крыві». Маст. фільм.
18.30 Часопіс падарожжаў: «Ірляндыя, Марока».
19.00 Прыгодніцкі сэрыял «Затока Небясьпечная».
19.30 Опра Ўінфры-шоў: «Ён зьмяніўся пасьля вясельля».
20.15 Мультфільм.
20.30 «Як маесься, дзядзька?». Юры Лаза.
21.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Спартовая мазаіка».
21.30 Сем хвілінаў з «Хрыстафорам».
21.40 Тэлесэрыял «Кветка жарсьці». 11—12 сэрыі.
23.10 Муз. праграма.

**Нядзеля, 29 траўня**
15.00 Мультсэрыял «Трансформэры». 13—15 сэрыі.
16.10 Роздумы пра джаз.
17.00 Прапаведнік Кенэт Копленд.
17.30 Праграма пра здароўе: «Доктар... доктар».
18.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Тэлефэн», «Вуліца».
18.30 Кароткамэтражны фільм «Купідон з паліцэйскай адзнакай».
19.00 «Дзікая Амэрыка».
19.30 «Спорт-сакрэт». Андрэй Сідарэнка.
20.00 Камэдыйнае шоў «Схаваная камэра».
20.20 Тэлесэрыял «Кветка жарсьці». 13—15 сэрыі.
22.40 «Foxy music». Муз. праграма.

# «Дзікае паляваньне» Кебіча

Адзін зь сяброў СВАБОДЫ (даволі інфармаваны чалавек) нядаўна прапанаваў нам наведацца ў лес каля Пухавічаў і зрабіць фотаздымкі, калі там будзе паляваць Вячаслаў Кебіч са сваёй кампаніяй. Калі б мы ня ведалі гэтага чалавека, маглі б падумаць, што ён правакатар, які хоча арганізаваць «выпадковае забойства».

Між тым пра паляўнічыя прыгоды Кебіча да нас трапляла шмат зьвестак. Але гэта была інфармацыя праз «другія рукі». Сёньня мы ведаем падрабязнасьці ад непасрэднага назіральніка — салдата, які служыў у батальёне, што абслугоўваў Кебічавы гуляньні.

**Вось што пісаў салдат у лісьце да маці 19 сьнежня 1992 г.:** «17, 18 і 19 сьнежня наша камэнданцкая і сапёрная роты працавалі ў «запасным раёне» дывізіі. У лесе выбралі паляну, сапёры выкарчавалі пні й зраўнялі пляцоўку. Прывезьлі тры машыны жоўтага пяску й роўна рассыпалі. Затым выслалі галінкамі хвоі. На іх паслалі шчыты з дошак, па шчытах разаслалі гумовую тканіну, а потым выслалі дыванамі.

На гэтай аснове мы ўсталявалі тры намёты. У адным была зробленая прыбіральня. У другім, большым, намёце сьцены й столь былі ўбраныя бялюткімі прасьцінамі, пастаўлены сталы, пакрытыя прыгожымі абрусамі. На сталы выстаўляўся крышталёвы посуд. Стравы былі далікатныя: розныя мясныя й рыбныя далікатэсы. На сталы таксама ставілі прадукты са скрыняў гуманітарнай дапамогі з-за мяжы. Мы працавалі цэлы дзень і згаладаліся. Наш ротны сьцягнуў адну скрыню гуманітарнай, і мы добра пад'елі. У трэцім намёце разьмясьціліся жанчыны й кухары зь Менска. Ва ўсіх намётах мы ўсталявалі печкі і правялі асьвятленьне ад перасоўнай электрастанцыі.

Каля намётаў выкапалі яму, куды паклалі пляшкі з алкагольнымі напоямі, каб астудзіць. Непадалёк зрабілі кручёлку, каб смажыць дзічыну.

З нашай роты былі вылучаныя некалькі салдатаў для абслугі застольля. Ім выдалі новае абмундзіраваньне і правялі інструктаж, як сябе паводзіць: калі будзеце ўваходзіць у намёт — на сталы не пазіраць, у рот гасьцям не заглядваць, прынёс, паставіў і ціхенька выйшаў.

Калі мы 19-га, у суботу, увечары сыходзілі, пачалі зьяжджацца госьці. Па іх пасылалі машыны. Прывезьлі дывізійны ансамбаль. Прыехаў вядомы кампазытар Ігар Лучанок. Хлопцы мне яго паказалі».

Дарэчы, неўзабаве ў інтэрвію ("Народная газета" ад 4 лютага 1993 г.) Ігар Лучанок згадаў пра паездку ў Пухавічы: «21 сьнежня ў гарадзкім пасёлку Мір адбылася сустрэча Старшыні Саўміну В.Кебіча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі рэспублікі. Прыкладна за дзень да гэтага я бачыўся зь Вячаславам Францавічам у Пухавічах, і ён мяне запрасіў у Мір». Пра тое, што Лучанок з Кебічам рабілі ў Пухавічах, кампазытар не сказаў.

**А «наш» салдат у наступным лісьце піша:** «...Сёньня зранку (21.12.92) езьдзілі ў «запасны раён» — зьбіралі ўсё. Тыя, хто там заставаўся, сустрэлі нас бруднымі й няголенымі. Распавядалі, што ў суботу было чалавек 60—70. Гулялі да 2 гадзінаў начы. Лучанок сьпяваў там свае песьні. Адзін хлопец кажа, што Кебіч В.Ф. троху ўпіўся. А там, кажа, усяго наглядзеўся: і п'яныя генэралы з маладымі дзеўкамі, і многа яшчэ ўсялякага.

Нам засталося шмат ежы і пітва. Дык мы сёньня селі, пад'елі, папілі, паразмаўлялі. Хлопцы расказваюць, што на другі дзень тут ужо засталіся толькі блізкія сябры, на паляваньні забілі маладзенькага кабанчыка, але пілі і елі ўжо менш, проста сядзелі каля вогнішча і сьпявалі пад баяны. У нас траім хлопцам начальнік штабу даў па 10 сутак адпачынку — за тое, што хутка склалі вялікае вогнішча. Вось сёньня ўжо адзін паехаў, а астатнія зьбіраюцца ехаць пад Новы год. А зараз мы склалі ўсё і адпачываем, чакаем, што ж яшчэ прыйдзе ў галаву нашым бацькам-камандзірам».

**Праз тыдзень салдат піша маці:** «На гэтым тыдні ў суботу (26.12) зноў выяжджалі ў «запасны раён». На гэты раз Кебіч прыяжджаў на паляваньне. Паставілі намёт, ну і ўсё астатняе. Быў ён са сьвітаю, прыцягнуў сваю сям'ю. Спачатку палявалі, забілі добрага кабана, а потым Кебіч здымаў на стужку ўсю гулянку, нават дзяцей нейкіх прывёз, можа сваіх, а можа яшчэ нечых. Так яны пагулялі, папілі і паехалі па дамох, а нам зноў прыбірай, скручвай. Тыдзень руку мыць ня буду — Кебіч і камдыў з кожным за руку разьвітваліся».

**Праз тры месяцы «нашаму» салдату пашчасьціла зноў пабачыць Вячаслава Францавіча:** «10 красавіка 1993 г. Кебіч са сьвітай, чалавек 15, прыехалі на рыбалку. З сабою прывезьлі бутэлек 30 гарэлкі. Мы рамантавалі пад'язную дарогу і разгортвалі намёты. Было застольле зь юшкай і гарэлкай. Гэтым разам Кебіч быў зусім п'яны. Ён ледзь трымаўся на нагах, нават ня мог сам пераапрануцца з паляўнічага касьцюма ў цывільны. Два прапаршчыкі трымалі яго пад рукі, а трэці нацягваў штаны. Зашпільваючы Кебічаву шырынку, ён загадаў нам, салдатам, адвярнуцца... Мама, ты б паглядзела — хто намі кіруе!»

**Іван СІДАР**



**У Бабруйску на вул. Сацыялістычнай ёсьць крама «Журавінка», пакупнікі якой нават не падазраюць, што купленыя тут прадукты могуць быць небясьпечнымі для здароўя.**

**На здымку: у «Журавінку» прывезьлі хлеб.**



## Партыйнае начальства пад адной вокладкай з князямі ды каралямі

**У Горадні адбылася прэзэнтацыя кнігі «Кранон». Як вядома, у сярэднявеччы гэтак называўся Нёман. У кнізе на 330 старонках выкладзеная хроніка гарадзенскіх падзеяў ад 1116 да 1990 г. Аўтары працы — краязнаўца А.Госьцеў і гісторык В. Швед. Яе выпусьціла гарадзенскае аддзяленьне Беларускага фонду культуры.**

Упершыню сабраныя падрабязныя зьвесткі з гісторыі горада і пра зьвязаных зь ім асобаў. Відаць, паколькі кніга была напісаная тры гады таму і не перараблялася, моцна адчуваецца ідэялягічны акцэнт. Разам з рэдкімі партрэтамі вялікіх князёў і каралёў зьмешчаныя таксама здымкі партыйна-савецкага начальства. А з мастаком Ларывонавым суседзіць да болю вядомы таварыш Ленін, які, аказваецца, успамінаў Гарадзенскую губэрню ў сваіх артыкулах.

Апроч усім вядомых датаў, у кніжцы можна знайсьці зьвесткі і пра такую падзею, як «пажар на складзе яек на Флёрэн-штрасе 24 траўня 1942 года». У зусім нядаўнія часы таксама здараліся незвычайныя справы. Напрыклад, 1 сакавіка 1990 г. гарвыканкам засьведчыў, што ў Горадні вострую сацыяльную напружанасьць стварае недахоп у крамах мяса й каўбасы. І калі ЦК КПБ ня зробіць захадаў, гарадзенскія ўлады папросяць калектывы й партарганізацыі мясакамбінату спыніць адгрузку мясапрадуктаў у саюзны фонд. Выходзіць, што не такія мы ўжо былі рахманыя.

Шкада, што кніжка надрукаваная па-расейску. Праўда, аўтары зьбіраюцца яе нібыта перакладаць ня толькі на беларускую мову, але і на францускую і ангельскую — для будучых замежных турыстаў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Канец сьвету цалкам магчымы

*(Пачатак у №18)*

### Millenium

Напачатку меркавалася, што Апошні Суд адбудзецца ў межах аднаго пакаленьня. Калі ж гэтага ня здарылася, Эвангелісты пачалі «папраўляць», пісаць апокрыфы. Такім чынам узьнік апакаліпсыс Дзевы Марыі, адкрыцьцё Стэфана, апакаліпсыс Паўла ды шмат іншых, якія хутчэй нагадваюць раньнюю вэрсію «Пекла» Дантэ, чым прадказаньні канца сьвету. З выхаваўчых меркаваньняў гэтыя кнігі мелі выклікаць жах перад магчымым пакараньнем.

Але людзей усё ж інтрыгавала, калі гэта здарыцца. Пэўны час меркавалі, што ў 666 годзе, іншыя рабілі стаўку на год 365, тымчасам як яшчэ сёй-той адкладаў прыбыцьцё Чатырох Вершнікаў аж на 6300 г. Сьвяты ж Аўгустын быў перакананы, што Адкрыцьцё — гэта ўсяго толькі духоўная алегорыя, і сымбалічна яно ўжо спраўдзілася. Але паколькі ў тэксьце сьв. Яна згаданы тысячны год, дык шмат хто верыў, што Канец адбудзецца ў гэты час. Як піша ў сваёй кніжцы «Міленійныя прароцтвы» (1992) амэрыканскі знаўца прадмету А.Т.Ман, калі набліжалася да канца першае тысячагодзьдзе хрысьціянства, многія людзі панікавалі: «У 971 г. арэндавыя дамовы заключалі толькі на 29 гадоў. З нэрвовым імпэтам будаваліся касьцёлы і складаліся ахвяры. Увесь сьвет у жудлівым страху чакаў Канца Часу. Сарацыны, вікінгі й гуны тымчасам напалі на Эўропу й не давалі спакою хрысьціянскаму насельніцтву, але зь неба цмок не зваліўся, рэкі не запеніліся чырваньню, і не пачаў лютаваць сатана. 1000 г. як надышоў, так і мінуў, а Апошні Суд так і не наступіў.»

Потым называлася яшчэ шмат датаў, напрыклад, 1033 г. — тысяча гадоў з часу Хрыстовай сьмерці, 1066 — бо зьявілася «камэта-заваёўніца», 1496 — бо з ракі Тыбар нібыта вылавілі пачвару з асьлінаю галавою й дзявочым целам, што мела адну нагу аленя, другую — грыфа ды старэчы твар замест азадка. Шмат іншых датаў Апошняга Суду мінула ў XVI і XVII стст., прайшоў і год «Вялікага Зьвера» — 1666, але нічога не адбылося, калі не лічыць звычайных войнаў, пошасьцяў ды катастрофаў. Дык можа ня варта і згадваць пра ўсіх гэтых прарокаў, калі ніводнае зь іхных прадказаньняў не збылося? Тым больш, калі, напрыклад, Настрадамус «прызначае» канец сьвету толькі на 3797 год.

І ўсё ж гэта калі-нікалі варта рабіць. Хаця б для таго, каб успомніць пра існаваньне адрознага ад рацыянальна-тэхнакратычнага вымярэньня людзкога мысьленьня пра зямлю, чалавека й сусьвет.

### Грымаса Настрадамуса

Апакаліптычная немарасьць яшчэ ня спраўдзілася, але гэта не дае нагоды для кпінаў. Навука падкідае дастаткова шмат «чорных сцэнароў», дый нашае сьвецкае мастацтва ўсё часьцей выяўляе Вершнікаў Апакаліпсысу ў нашым сьвеце: ці то ў галівудзкай форме гіганцкага мэтэарыту, які ў апошнюю хвілю ўдаецца супольна «зьбіць» амэрыканскім і савецкім ядравым ракетам, ці то ў вэрсіі псыхалягічнага «ядра цемры» ў чалавеку — неспатольнай прагі ўлады й цынізму. У кожнай новай вэрсіі зьяўляюцца матывы, пазычаныя з Адкрыцьця сьв. Яна. Адначасова з гэтым людзі, якія страцілі нядаўнюю веру ў тэхналягічны, эканамічны й сацыяльны прагрэс, які меў забясьпечыць нам усім «сьветлую будучыню», прыгадваюць, што ўжо былі такія асобы, якія ўмелі зазіраць на стагодзьдзі наперад. І ўсё часьцей успамінаюць найславутага зь іх — Настрадамуса.

*(Працяг будзе)*

## Сьветлая будучыня за 500 рублёў

**У слонімскіх шапіках «Белсаюздруку» Слоніма зьявілася брашура «Праграма і статут Партыі камуністаў Беларусі».**

Каштуе гэты жыцьцёва важны дакумант 500 рублёў. І хоць трапіў ён у райцэнтар усяго ў колькасьці 50 асобнікаў, аднак за два тыдні не купілі ніводнага. «Мы б увогуле ня бралі гэтыя брашуры для рэалізацыі, калі б нам іх не даслалі з Горадні зь іншаю прадукцыяй. Цяпер з-за гэтых агітак нашыя прадаўцы вымушаныя выслухоўваць розныя абразы ад людзей», — абурана кажуць супрацоўніцы «Саюздруку».

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Зноў выбух

**У пасёлку Стрэшын Жлобінскага раёну на калгасным двары ўзарваўся сартавальны камбайн, на якім людзі перабіралі бульбу.**

Загінуў адзін калгасьнік і параненая пэнсіянэрка, якая была паблізу камбайна. Мяркуюць, што прычынаю выбуху стала граната «Ф-1» часоў вайны, якая магла патрапіць з поля ў бурт разам з бульбаю.

*СІМ*



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 23.05.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 737 Наклад 30 000.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12